**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 29 (745) 17 ліпеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**На ўрачыстай Імшы з нагоды 110 годдзя будаўніцтва касцёла ў Параф'янаве дзеці падносяць біскупу Алегу Буткевічу хлеб і віно як сімвалы Цела і Крыві Хрыста.**

*Фота Зміцера Лупача.*



**Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на ________ №166**



## МНС інфармуе
**на 15.07.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў –603;
Гібель людзей – 66, з іх 2 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 24;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 494.87 млн. руб.

# У беларускія ВНУ на дэфіцытныя спецыяльнасці будзе аб`яўлены дадатковы набор

**14 ліпеня будзе прынята рашэнне аб правядзенні дадатковага набору ў беларускія ВНУ на дэфіцытныя спецыяльнасці.Абгэтым у праграме "Галоўны эфір" тэлеканала "Беларусь 1" вечарам 13 ліпеня паведаміў міністр адукацыі Сяргей Маскевіч.**

"Міністэрства адукацыі атрымае інфармацыю з ВНУ і звароты або хадайніцтвы галінаў, якія сапраўды маюць патрэбу ў кадрах. І разам з урадам, з камісіяй па кантролі за ходам уступных іспытаў прыме рашэнне: там, дзе сапраўдны мы ўбачым, што зніжэнне прахаднога бала на 5 для ўдзелу ў конкурсе не адаб`ецца на якасці падрыхтоўкі спецыялістаў, будзе прынята рашэнне аб дадатковым наборы як выключэнне", — расказаў міністр.

Што да вынікаў падачы дакументаў, то, паводле слоў Маскевіча, у большасці ВНУ наборы адбыліся. "Прычым прыемна, што ў многіх ВНУ гэта не толькі наборы на прэстыжныя спецыяльнасці (сярод асаблівых прыярытэтаў сёння інфармацыйныя тэхналогіі), але ёсць універсітэты і класічнага тыпу, напрыклад, у Гродзенскім універсітэце, можна сказаць, што адбыўся набор на ўсе спецыяльнасці. І ў шэрагу іншых універсітэтаў, згодна з аператыўнай інфармацыяй, набор адбудзецца", — паведаміў Маскевіч.

Ён расказаў, што дзякуючы магчымасці сёлета паступаць медалістам на педагагічныя, навукова-педагагічныя спецыяльнасці без здачы цэнтралізаванага тэставання, істотна павялічылася колькасць моцных абітурыентаў у педагагічных ВНУ. "У разы", — канстатаваў міністр.

Закранаючы вынікі тэставання, міністр паведаміў, што будзе прапаноўваць карэкціроўку вучэбных планаў і вучэбных праграм у школах, бо вынікі, якія паказваюць выпускнікі школ па фізіцы і матэматыцы, значна ніжэйшыя, прыкладна на 20 балаў, чым вынікі выпускнікоў гімназій.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

**Аршанскі раён**

# Зноў няўвязкі

■ Станіслаў Раманчук

**Ужо некалькі гадоў ніяк не можа выйсці на запланаваныя паказчыкі дзейнасці сярод іншых і рэспубліканская праграма "Лён".**

Угэтымдакументцегалоўны прыярытэт аддадзены Аршанскаму льнокамбінату, які з'яўляецца буйнейшым у Еўропе. Цяпер на гэтым гіганце заканчваецца маштабная рэканструкцыя асноўнай фабрыкі № 3, на якую з розных крыніц фінансавання было выдаткавана 270 мільярдаў рублёў. Работы па тэхперааснашчэнню камбіната пачаліся яшчэ ў 2011 годзе, але поўнасцю яны не закончаны дагэтуль. У прычынах узнікшых цяжкасцей днямі прыехаў сюды разбірацца асабіста старшыня Камітэта дзяржкантролю Беларусі Аляксандр Якабсон. Як высветлілася, трэба на заканчэнне мадэрнізацыі вытворчасці адшукаць дадаткова яшчэ некалькі мільярдаў. Адна з замежных кампаній-пастаўшчыкоў падвяла завадчан, паставіла па кантракце абсталяванне, не поўнасцю гатовае для рытмічнай працы. Тым не менш на льнокамбінаце спадзяюцца пераадолець узнікшыя праблемы з цягам часу. Тут ужо многае змянілася ў лепшы бок, падвоіліся аб'ёмы і асартымент выпускаемай прадукцыі. Не спыняючы асноўнай дзейнасці адначасова пачынаецца і рэканструкцыя суседняй фабрыкі № 2. Іншая справа, што галоўнае прадпрыемства льнаводчай галіны падводзяць і заводы-пастаўшчыкі сыравіны з рэгіёнаў. У завадчан ёсць справядлівыя прэтэнзіі наконт якасці і колькасці перапрацоўваемага валакна. Партнёры не заўжды ўкладваюцца ў тэрміны сяўбы і ўборкі даўгунцу, адносяцца якасна да падбору гатункаў лёну і захавання тэхналогій яго вырошчвання.

**Полацкі раён**

# Незабыўнае свята

■ Чэслаў Якубовіч

**Ва ўсіх кутках краіны ў пачатку месяца праходзілі шматлікія святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя дзяржаўнаму святу Дню незалежнасці і 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

На тэрыторыі Полацкага раёна, дзе арганізуюць шэраг незвычайных свят, таксама і сёлета не адступілі ад такой традыцыі. Тут упершыню правялі патрыятычную акцыю памяці "Аўтобус Вызвалення". Яго пасажырамі сталі прадстаўнікі грамадскасці, працоўных калектываў, райваенкамата і мясцовых сельсаветаў. За некалькі дзён перад імі стаяла задача аб'ехаць усе больш 110 помнікаў, воінскіх абеліскаў і брацкіх могілак на месцах былых баёў, ускласці там вянкі і кветкі. Таксама ганаровыя госці па складзеным графіку асабіста сустракаліся з ветэранамі вайны па месцах іх пражывання і віншавалі іх са святам, дзякавалі пасівелым героям за здабытую дарагой цаной перамогу над ворагам. Заключным акордам хвалюючай акцыі стаў мітынг-рэквіем, які прайшоў у гісторыка-культурным комплексе "Поле ратнай славы", размешчаным на тэрыторыі аграгарадка Гомель. А вось у Чашніцкім раёне пастараліся, каб юбілейнае свята стала незабыўным і для маладога пакалення. Адсюль 20 юнакоў і дзяўчат адправіліся ў велапрабег працягласцю больш тыдня па маршруце Чашнікі-Пскоў. Яны праехалі амаль 800 км, дзе таксама наведвалі памятныя мясціны, звязаныя з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Віцебскай і Пскоўскай абласцей. На расійскім баку маршрута да іх далучыліся расійскія аднагодкі-веласіпедысты. Перад гэтым яшчэ 9 добра падрыхтаваных маладых людзей правялі водны паход па рацэ Ула. Яны праплылі на лодках больш 80 км і па тэрыторыі Лепельскага раёна падчас акцыі "За Беларусь".

**Пастаўскі раён**

# Радзеюць рады ветэранаў

■ Кастусь Александровіч

**Для старэйшых пакаленняў беларусаў трагічныя і гераічныя падзеі Другой Сусветнай вайны, веліч подзвігу арміі і народу назаўжды застануцца хвалюючымі і памятнымі.**

Вось і ў Пастаўскім раёне падчас ваеннага ліхалецця было спалена карнікамі 77 населеных пунктаў, а вёска Альцы з 72 мірнымі жыхарамі так і не адрадзілася, паўтарыла горкі лёс Хатыні. Падчас фашысцкай акупацыі тут было забіта больш за 5,5 тысяч чалавек, яшчэ больш двух тысяч жыхароў вывезлі на прымусовыя работы ў Германію. Аб гэтым узгадвалася падчас прайшоўшых урачыстасцей з нагоды 70-годдзя вызвалення краю ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якія пачалися з аўтапрабегу "Памяці загінуўшых герояў". Вянкі і кветкі былі ўскладзены на воінскіх пахаваннях у раёне, у якіх знайшлі вечны спачын 780 воінаў-вызваліцеляў. Аднак час няўмольны і з кожным годам колькасць удзельнікаў і сведкаў тых падзей няўхільна змяншаецца. На ўрачыстым прыёме ў раённым выканкаме і цырымоніі ўручэння юбілейных медалёў ветэранам вайны змаглі па стане здароўя прысутнічаць толькі 11 пасівелых франтавікоў і партызан. З асаблівай цеплынёй потым іх сустракалі ў Летнім амфітэатры гарадскога парку, дзе прадоўжыліся асноўныя ўрачыстасці і вялікі святочны канцэрт. Напярэдадні ж свята віншаванні іншыя ветэраны, работнікі тылу і былыя вязні гітлераўскіх канцлагераў, усяго ж больш за 130 чалавек, па стане здароўя атрымоўвалі па месцы жыхарства. Ім была ўручана акрамя юбілейных медалёў і традыцыйных франтавых пісьмаў-трохкутнікаў і аднаразовая матэрыяльная дапамога.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 17.07.14 | | | | Пятніца 18.07.14 | | | | Субота 19.07.14 | | | | Нядзеля 20.07.14 | | | | Пн.21.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +16 | +21 | +23 | +21 | +15 | +21 | +23 | +21 | +15 | +19 | +22 | +20 | +15 | +19 | +20 | +18 | +16 | +19 | +23 |
| Ціск | 751 | 751 | 751 | 751 | 751 | 751 | 750 | 750 | 749 | 749 | 748 | 748 | 747 | 747 | 745 | 745 | 744 | 745 | 745 |
| Вільготнасць | 90 | 76 | 56 | 77 | 93 | 77 | 54 | 80 | 90 | 83 | 58 | 72 | 92 | 86 | 81 | 89 | 91 | 80 | 53 |
| Вецер м/сек | 3 Пн | 2 Пн-З | 3 Пн-З | 3 Пн | 3 Пн | 2 Пн-З | 4 Пн | 2 Пн-З | 2 Пн-З | 3 З | 3 Пн-З | 4 Пн | 3 Пн | 5 Пн-З | 4 Пн | 4 Пн | 4 Пн | 3 Пн | 4 Пн-У |

# Аб самым надзённым

## АФРЫКАНСКУЮ ЧУМУ ПОЎНАСЦЮ НЕ СПІШАШ ПАДАРАЖЭННЕМ МЯСА І ЗНІЖЭННЕМ ВЫТВОРЧАСЦІ МАЛАКА



svaboda.org (RFE/RL)

■ Аляксандр Цішкевіч

**Сёлета таксама для беларусаў непрыемным сюрпрызам стаў і дэфіцыт свініны, хоць у свеце з гэтым ніякіх праблем няма.Праўда, у дадзеным выпадку чыноўнікі знайшлі апраўданне, чаму за некалькі месяцаў любімая суайчыннікамі шкварка падаражэла на 50-65 %. Цяпер, каб купіць кілаграм свініны ў магазіне, трэба мець у кашальку ад 100 тысяч і болей рублёў.**

Кожны беларус ведае аб тым, што найбольш пільную ўвагу кіраўнік дзяржавы надае сельскай гаспадарцы сярод іншых галін народнай гаспадаркі. Практычна кожны месяц ён асабіста наведвае перадавыя сельгаспрадпрыемствы, стаў праводзіць і выязныя нарады з удзелам вышэйшых чыноўнікаў, каб болей Беларусь зарабляла валюты ад экспарту прадуктаў харчавання. Іншая справа, што сёлета высветліліся перад пачаткам масавай касавіцы траў дзіўныя рэчы.

Нават сам міністр сельскай гаспадаркі РБ Леанід Заяц вымушаны быў апраўдвацца, чаму з пачатку года меней атрымалі айчынныя аграрыі амаль на 60 тысяч тон малака і мяса. Ды і сярэдні надой на адну карову з пачатку года зменшыўся яшчэ на 4,1 %. Як высветлілася, грамадскае пагалоўе шмат дзе на фермах проста не даядае ўдосталь, бо забяспечанасць кармамі ў пераліку на адну ўмоўную галаву статку была меней на 15 %, чым у маі 2013 года. Потым, калі адрапартавалі аб завяршэнні першага ўкосу траў па краіне, Дзяржкантроль высветліў, што мелі месца і прыпіскі аб ходзе сенакашэння і сенаж з сіласам нарыхтоўваліся з парушэннямі тэхналогіі.

Сёлета таксама для беларусаў непрыемным сюрпрызам стаў і дэфіцыт свініны, хоць у свеце з гэтым ніякіх праблем няма. Праўда, у дадзеным выпадку чыноўнікі знайшлі апраўданне, чаму за некалькі месяцаў любімая суайчыннікамі шкварка падаражэла на 50-65 %. Цяпер, каб купіць кілаграм свініны ў магазіне, трэба мець у кашальку ад 100 тысяч і болей рублёў. На ўспышку афрыканскай чумы свіней спісваюць такое падаражанне, бо летась пагалоўе свіней на свінафермах скарацілася на 20 %, а палова панадворкаў насельніцтва вымушана была са слязьмі на вачах калоць сваіх свінак.

У гэтым годзе АЧС зноў нам пагражае і ўлады Беларусі ў пачатку ліпеня забаранілі ўвоз і транзіт праз нашу тэрыторыю жывых свіней, свініны і мясапрадуктаў з яе з суседняй Латвіі і яшчэ з 4-х прыгранічных з намі абласцей Расіі. Дарэчы, па суседству з Віцебшчынай захворванне свінак АЧС выявілі на ферме ў латышскай гаспадарцы на адлегласці ўсяго ў 6 км ад беларускай граніцы. Вірус АЧС косіць свіней на панадворках сялян у Смаленскай вобласці, за мяжой шмат выяўляецца трупаў хворых чумой дзікіх кабаноў.

Чамусьці толькі ў нас аб новых выпадках выяўлення АЧС афіцыйна не паведамляецца. Людзі гавораць, што свіная чума пачала распаўсюджвацца і па заходніх раёнах Прыдзвіння, але ветэрынарныя ўрачы абвяргаюць такія факты, хоць і рэкамендуюць людзям лепш закалоць парсючка для сваіх патрэбнасцей, бо гэтая бяда можа прыйсці ў любы момант. З гэтай нагоды беларускі лідар даў загад да новай зімы аднавіць і нават павялічыць пагалоўе свіней, бо краіна мае 330 тысяч свінаматак. Як будзе на самой справе, высветліцца неўзабаве, аднак хутчэй усяго будзем мы на паўгаладным пайку, паколькі нашы мясапрадукты таннымі ніяк не назавеш.

Яшчэ адной традыцыйнай для АПК Беларусі культурай застаецца лён, ён нават на дзяржаўным гербе прадстаўлены. У мінулым называлі льнаводства не інакш, як "манетным дваром" кожнага калгаса. Кіраўнік дзяржавы даўно марыць завяршыць мадэрнізацыю буйнейшага на кантыненце Аршанскага льнокамбіната, каб гэты гігант стаў адным з вядучых сусветных вытворцаў льняных тканін. Аднак цяпер там пачалася праверка, чаму зрываюцца тэрміны завяршэння рэканструкцыі асноўнай вытворчасці (яна пачалася 3 гады назад), чаму з Італіі даставілі негатовыя да працы агрэгаты. У прычынах зрыву сюды днямі прыязджаў разбірацца асабіста старшыня Камітэта дзяржкантролю.

Дзейнічае таксама ў нас і адпаведная рэспубліканская праграма "Лён". А якім чынам працуюць партнёры аршанцаў, прадэманстравала вясной прэзідэнцкая інспекцыя на заводзе галіны ў Слуцку. Сумна, але практычна паўсюдна на льнозаводзе можна знайсці гнілую трасту ў рулонах. Далей болей, летам у Брэсцкай вобласці ліквідавалі Івацэвіцкі льнозавод. Там засталося толькі два нармальна працуючых прадпрыемстваў галіны. Ды і ў нас на Віцебшчыне многія льнозаводы не могуць выбрацца з фінансавай ямы даўгоў, маюць кадравыя цяжкасці. У сваю чаргу ў гаспадарках парушаюцца тэрміны пасеву і ўборкі лёну, не захоўваюць тэхналогіі падбору ўчасткаў. А калі няма якаснай трасты, то не будзе эфектыўна загружана і дарагое імпартнае абсталяванне, якім сталі аснашчаць шэраг прадпрыемстваў льнопераапрацоўкі.

Прычына гэтых і іншых праблем айчынных аграрыяў у тым, што многія калгаснікі развучыліся працаваць сумленна, з душой, так як рабілі раней іх бацькі і дзяды. Нават калі работнікам сельгаспрадпрыемстваў забароняць мяняць сферу дзейнасці і пераязджаць у гарады без дазволу начальства, такім падыходам справу не паправіш.

## Дзень за днём

**Ва ўрадзе РБ пачалася праца над законапраектамі па змяншэнні кантролю над цэнаўтварэннем, свабоднымі сталі цэны на хлеб, булкі і яйкі. Попыт на банкаўскія крэдыты рэзка ўпаў пасля ўвядзення для беларусаў абавязковых даведак аб даходах. На беларускі рынак пачала вяртацца ўкраінская прадукцыя: піва і кандытарскія вырабы. У Беларусі можа з'явіцца хуткасная чыгунка, калі Кітай захоча мець такую трасу ў накірунку Еўропы, пакуль для яе зарэзерваралі зямлю. У краіне не збіраюцца закрываць ЛПП, хоць туды міліцыя будзе накіроўваць п'яніц па новых правілах.**

# Важнейшыя навіны свету

**Украіна**. Пасля падпісанання Пагаднення аб асацыяцыі з ЕС краіна стала паўнапраўным членам адзінага еўрапейскага газавага рынку, а Расія прыгразіла спыніць транзіт газу.

**Ірак.** Армія краіны перайшла ў наступленне, знішчыла больш 60 тэрарыстаў і вызвалiла захоплены суніцкімі баевікамі горад Цікрыт, ён быў узяты пад кантроль урада.

**Літва.** З-за нізкай яўкі толькі 15 % выбаршчыкаў не адбыўся рэферэндум па ўвядзенні змен у Канстытуцыю на забарону на продаж зямлю замежным грамадзянам.

**Венесуэла.** Упершыню сталіца Каракас і таксама яшчэ палова краіны засталіся без падачы электраэнергіі, яе энергетычныя сеткі моцна зношаныя, патрабуюць мадэрнізацыі.

**ЗША**. Спецыялісты NASA правялі выпрабаванні "лятаючай талеркі", каб праверыць новую тэхналогію пасадкі на Марс, куды пачнуцца палёты праз 15 гадоў.

**Францыя.** Чатыры сотні расійскіх ваенных маракоў прыбылі ў порт Сен-Назар для асваення да восені па кантракце навейшых французскіх верталётаносцаў "Містраль".

**Украіна.** З Кіева да Львова і Адэсы пачалі хадзіць новыя ўкраінскія хуткасныя цягнікі павышанай камфортнасці "Тарпан", іх стаў вырабляць завод у горадзе Крамянчуг.

**Самалі.** Падчас выкання рэйса з сталіцы краіны Магадзішa баевікі абстралялі расійскі верталёт МІ-8, які працуе па кантракце з ААН, на шчасце ніхто не пацярпеў.

**Расія.** На тэрыторыі Хабараўскага края пацярпеў крушэнне і разбіўся верталёт МІ-8, на борце якога знаходзіліся 4 члены экіпажа і 13 пасажыраў, усе яны цудам выжылі.

**Нігерыя.** На поўначы краіны ў горадзе Баўча ісламскія баевікі ажыццявілі чарговы тэракт, падарвалі мясцовы публічны дом, у якім загінула 10 і было паранена 14 чалавек.

**Індыя.** Дзве студэнткі з горада Варанасі распрацавалі жаночыя джынсы з ушытым электронным прыборам сувязі з паліцыяй, які абароніць жанчын ад гвалтаўнікоў.

**Малдова.** Каардынацыйны савет па тэлебачанні і радыёвяшчанні краіны забараніў вяшчанне тэлеканала "Расія-24" з-за прадузятых сюжэтаў аб падзеях у Малдове.

**Японія.** Па гораду Фудзісава стаў ездзіць першы ў свеце аўтобус, распрацаваны кампаніямі Isuzu і Euglena на біяпаліве з марскіх зялёных водарасцей/

**Расія.** Народны артыст РФ А. Басілашвілі назваў "мярзотнікамі" рускіх наймітаў у Данбасе, з-за Крыма Расія займела сабе ворага на ўсе стагоддзі, а дома столькі праблем.

**Бразілія.** Ад праведзенага чэмпіянату свету па футболе ФІФА зарабіла рэкордную суму амаль 4,5 млрд. долараў, турнір наведала больш 3 млн. замежных турыстаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Барысаў.** Упершыню А. Лукашэнка прызнаў, што ў будучым Беларусі прыйдзецца павялічыць з цяперашніх 55 і 60 гадоў пенсійны ўзрост з-за эканамічных цяжкасцей.

**Мінск.** Нечакана адправілі ў адстаўку 73-гадовага главу канцэрна "Белнафтахім" грамадзяніна Расіі Ігара Жыліна, ён раней даўно збіраўся на пенсію, але не адпускалі.

**Жодзіна.** Урад РБ выдзеліў "БелАЗу" 76,5 млрд. рублёў для арганізацыі на яго базе вытворчасці па зборцы беларуска-кітайскіх легкавых аўтамабіляў "Белджы".

**Баранавічы.** Ірак купіў у Расіі яшчэ 6 расійскіх самалётаў-знішчальнікаў Су-30К, якія тэрмінова па заказе адрамантавалі і аднавілі на мясцовым 558-авіярамонтным заводзе.

**Мінск.** Пасля падпісання Украінай Пагаднення аб асацыяцыі з ЕС, як заявіў намстаршыні БНПА Г. Грыц, змен ва ўзаемным гандлі з РБ не будзе, але можа зменшыцца наш экспарт.

**Карэлічы.** Днём на тэрыторыі райбальніцы ўзарвалася кацельня, людзі не пацярпелі, але без падачы гарачай вады засталіся акрамя ЦРБ 13 шматпавярховых і 6 прыватных дамоў.

**Салігорск.** Сярэдні заробак у раёне, па дадзеных Белстата, перавысіў 8,3 млн. рублёў (840 $), апярэдзіў Мінск і стаў самым высокім у краіне, так было і да крызісу "Беларуськалія".

**Івацэвічы.** У адсутнасць вартаўніка ў 2 гадзіны ночы загарэўся малочны блок на ферме ў вёсцы Турная, кароў у будынку не было, агнём знішчана 450 кв. метраў даху.

**Ганцавічы.** За вёскай Малыя Кругавічы невядомыя "чорныя капальнікі" раскапалі і абрабавалі адразу 8 курганных могільнікаў XI-XIII стагоддзяў, каштоўных для навукі.

**Бабруйск.** Мясцовы 52-гадовы жыхар паехаў у Маскву і там распачаў бойку з 38-гадовым масквічом, адабраў у яго 10 пар шкарпэтак, мабільны тэлефон і 3,6 тысячы рублёў РФ.

**Будслаў.** Галоўнае Богаслужэнне на штогадовым фэсце ў гонар знакамітага абраза Маці Божай правёў пасол Ватыкана ў Беларусі архіепіскап Клаўдзіо Гуджэроцці.

**Магілёў.** Гарадскія ўлады зноў выступілі з ініцыятывай перайменаваць Савецкую плошчу ў плошчу Славы, грамадскасць прапанавала іншую назву Ратушнай плошчы.

**Мсціслаўль.** У вёсцы Людагашч вялікі пчаліны рой спачатку пакусаў людзей, а потым прыехаўшую на дапамогу брыгаду "хуткай дапамогі", пчол супакоілі ратавальнікі МНС.

**Шклоў.** Нягледзячы на складаную абстаноўку ў Данбасе з Украіны на свята Купалля "Александрыя збірае сяброў" прыехала дэлегацыя, госці паказалі калекцыю вышыванак.

**Мінск.** ХК "Дынама" адмовіўся ад магчымасці вярнуць у свой склад аднаго з лідараў-бамбардзіра Ц. Стэплтона з-за наяўнасці ўжо 8 замежных хакеістаў-легіянераў.

## У Беларусі даражэюць паслугі ДАІ




■ БЕЛТА

**У Беларусі выраслі цэны на некаторыя паслугі, якія аказваюцца Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыяй. Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Міністэрства эканомікі № 47 ад 20 чэрвеня 2014 года, афіцыйна апублікаваным на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БЕЛТА.**

У прыватнасці, выезд супрацоўніка ДАІ ў вучэбную арганізацыю для прыёму кваліфікацыйнага экзамену на права кіравання механічным транспартным сродкам, правядзення заняткаў па правілах дарожнага руху абыдзецца па тарыфнай стаўцы на ўзроўні Br40 тыс. у гадзіну. Прадастаўленне аўтадрома для навучання ваджэнню (на аўтамабілі ўладальніка) каштуе з гэтага часу Br12 тыс. у гадзіну. Выдача камплекту копій дакументаў, якія паслужылі падставай для рэгістрацыйных дзеянняў у дачыненні да транспартнага сродку, будзе каштаваць Br22 тыс., а камплекты копій матэрыялаў справы аб адміністрацыйным правапарушэнні - Br25 тыс.

Удзел супрацоўніка ДАІ ў пасяджэннях прыёмных камісій і прыёмачных, кваліфікацыйных і іншых выпрабаваннях транспартных сродкаў, складовых частак іх канструкцыі і дадатковага абсталявання ацэнена ў Br150 тыс.

Суправаджэнне аўтамабілем ДАІ цяжкавагавых або буйнагабарытных транспартных сродкаў, небяспечных грузаў пры іх перавозцы ў межах населенага пункта ацэньваецца ў залежнасці ад далёкасці паездкі. На адлегласць да 10 км уключна такая паслуга абыдзецца ў Br90 тыс.; на адлегласць да 20 км - Br140 тыс.; на адлегласць звыш 20 км - Br180 тыс. За суправаджэнне названай катэгорыі транспартных сродкаў па-за межамі населенага пункта кожны кіламетр прабегу аплачваецца па тарыфе ў Br5, 5 тыс. за 1 км. Узгадненне зместу інфармацыі на папяровых і электронных носьбітах, якая закранае сферу забеспячэння бяспекі дарожнага руху, ацэнена ў Br90 тыс. за адзін умоўны друкаваны ліст.

Дакумент уступае ў сілу праз 5 дзён пасля яго афіцыйнага апублікавання.

## У Беларусі мінімальны заробак за чэрвень індэксуецца на 7,2%

■ nn.by

**У Беларусі мінімальны заробак за чэрвень індэксуецца, як і ў папярэднім месяцы, на 7,2%.**

Гэта абумоўлена тым, што індэкс спажывецкіх цэн за чэрвень не перавысіў пяціпрацэнтны парог да месяца папярэдняй індэксацыі (май 2014 года), паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.

Такім чынам, месячны мінімальны заробак за чэрвень гэтага года складае 1 млн 747 тыс. 300 рублёў, пагадзінны мінімальны — 10 тыс. 410 рублёў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Па рэкорднай цане 870 млн. рублёў на аўкцыёне прадалі сярод 11 удзельнікаў два пустуючыя цагляныя будынкі "Аршакамгазу" ў раёне чыгуначнага вакзала.

**Верхнядзвінск.** Пасля выяўлення ў суседняй Латвіі ачага АЧС Беларусь часова забараніла ўвоз і транзіт адтуль свініны, у раёне людзі масава сталі рэзаць свіней з-за гэтага віруса.

**Сянно.** Раён узначаліў новы старшыня райвыканкама, 33-гадовы Васіль Чэраднік, інжынер-энергетык па адукацыі, да пераводу сюды ўзначальваў Лепельскі райсельгасхарч.

**Паставы.** Самым смачным на 2-м рэспубліканскім сырным фестывалі пад Мінскам прызналі сыр "Манарх люкс" мясцовага малзавода, лепшымі – сыры для дзяцей і закускі.

**Віцебск.** На працягу тыдня падчас фестывалю "Славянскі базар у Віцебску" праходзіла першае свята беларускага кваса і піва "Славянскі бровар" з удзелам 6 кампаній піва.

**Наваполацк.** Мясцовы Дом гандлю па выніках працы ў 2013 годзе прызналі лепшым у Беларусі па эканоміі рэсурсаў, яго імя з'явілася на рэспубліканскай Дошцы гонару.

**Орша.** Копыскі філіял па вытворчасці сыроў мясцовага малочнага камбіната давёў да 16 найменняў выпуск прадукцыі па балгарскай тэхналогіі аб'ёмам па 1 тоне штодзень.

**Сянно.** У ходзе пошукавых работ устанавілі прозвішчы яшчэ 16 загінуўшых у вайну воінаў, пахаваных на воінскім мемарыяле ў вёсцы Расна, там замянілі гранітныя пліты.

**Глыбокае.** На Алеі славы знакамітых землякоў з'явіўся яшчэ адзін, 9-ы па ліку помнік прафесара Юрыя Сабалеўскага, заснавальніка нацыянальнай школы геатэхнікі.

**Полацк.** Студэнты двух факультэтаў мясцовага дзяржуніверсітэта ў складзе будатрада "Дзвіна" да канца лета адправіліся на будаўнічую пляцоўку Беларускай АЭС у Астраўцы.

**Лепель.** Ратавальнікі МНС выцягнулі з незвычайнай пасткі вучня 2-га класа, ён гуляў у двары дома і захрас паміж дрэвам і металічным прутам, меддапамога яму не спатрэбілася.

**Янавічы.** Каля 3-х гадзін ночы на мясцовым філіяле Віцебскага ААТ "Малако" прарвала трубу з аміякам кампрэсарнага цэха, выцекла 60 кг атруты, ніхто з людзей не пацярпеў.

**Орша.** Для пасажыраў паяздоў рэгіянальных ліній бізнес-класа на Мінск увялі паслугу набыцця білета праз Інтэрнэт з выбарам самастойна па графічнай схеме месца ў вагоне.

**Паставы.** Днём у прыгараднай вёсцы Чарты сутыкнуліся дзве іншамаркі, з-за 21-гадовага няўважлівага кіроўцы пры выездзе на галоўную дарогу загінула там 49-гадовая жанчына.

**Полацк.** Мацюшоўскай СШ прысвоілі ганаровае званне імя Паўла Купрыянава, першага беларуса, які стаў Героем Савецкага Саюза і загінуў з танкам у 1936 годзе ў Іспаніі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

600

# Глыбокае: невядомае пра вядомае альбо рэбусы гісторыі



■ Надзея Храпавіцкая

**Працяг.**
*Пачатак у № 28 (744) 10 ліпеня 2014 года.*

## Калі Глыбокае сталася горадам?

Адказ на гэтае пытанне на першы погляд вельмі просты: варта толькі зазірнуць у энцыклапедычны даведнік, дзе мы прачытаем, што статус горада нададзены Глыбокаму ў 1940 годзе, ужо пасля прыходу "першых саветаў", з утварэннем Глыбоцкага раёна.

Гэта калі разважаць юрыдычна. Але фактычна ўжо ў пачатку 18 стагоддзя тое *паўднёва-заходняе Глыбокае*, якое належала Радзівілам, называлася горадам – па-старабеларуску "места", альбо па-польску "miasto".

На працягу ўсяго 18 стагоддзя ў гаспадарчых інвентарах нашае Глыбокае сістэматычна запісваецца як "Места"; першы вядомы нам прыклад падобнага запісу датуецца 1702 г. Мястэчкамі ж у інвентарах названыя меншыя паселішчы, напрыклад, Порплішча ці Свіла.

Акрамя інвентароў, акрэсленне "горад" (места) сустракаецца ў арэнднай дамове паміж уладальнікам Глыбокага Геранімам Фларыянам Радзівілам і сям'ёй Бжастоўскіх. У 1752 г. Радзівіл здаваў Бжастоўскім у арэнду "маёнтак мой спадчынны названы Глыбокае, у павеце Ашмянскім размешчаны, (…) з усімі забудовамі дворнымі і гуменнымі, з засевам жытнім і гароднінным, з Местам, вёскамі і падданымі, з іх павіннасцямі" і г.д. (заўважым, што "мястэчкам" у гэтым дакуменце названае Порплішча).

## Мястэчка ці горад?

Большасць мястэчак узнікла ў 15-16 стагоддзях. Зазвычай іх утваралі ўладальнікі маёнткаў на сваёй зямлі ў выгодным геаграфічным становішчы, на скрыжаванні шляхоў, каля важных рэлігійных асяродкаў, замкаў ці панскіх двароў, на берагах рэк ці азёр. Мэтай іх утварэння было фарміраванне шчыльнай сеткі таргоў (рынкаў) – у мястэчках абавязкова мусіў быць рынак, праводзіцца таргі, тым самым насельніцтва навакольных вёсак уцягвалася ў таварнаграшовыя адносіны. Гэтыя паселішчы выраслалі ці з сельскіх населеных пунктаў, ці на новым месцы. Вакол іх не было абарончых умацаванняў, якія б абмяжоўвалі іх рост, і яны маглі расці, развівацца і расцягвацца ў розных кірунках. Выглядае на тое, што паўднёва-заходняе Глыбокае таксама ўзнікла падобным чынам як мястэчка.

Але трэба прызнаць, што ў ВКЛ паняцці "места" (горад) і "мястэчка" не былі цалкам юрыдычна размежаваныя. Прыблізную класіфікацыю гарадскіх пасяленняў мы можам знайсці ў афіцыйным дакуменце часоў Рэчы Паспалітай – пастанове Варшаўскага сойма аб генеральным падымным за 1775 год. Паселішчы гарадскога тыпу там падзяляюцца на "гарады вялікія", "гарады меншыя" і "мястэчкі". Сцвярджаецца, што "пад мястэчкамі трэба разумець такія, каторыя адным земляробствам жывуць і меней як 300 дымоў налічваюць". "Дым" – гэта тагачасная адзінка падаткаабкладання. Так у часы Вялікага Княства Літоўскага ў 14-18 стагоддзях называлі хатнюю гаспадарку: хату разам з гаспадарчымі будынкамі, участкам, інвентаром і жывёлай.

Такім чынам, трэба падлічыць колькасць дымоў у тагачасным Глыбокім, а таксама апісаць заняткі жыхароў – і мы пабачым, ці правамерна называць Глыбокае 18 ст. мястэчкам, альбо ўсё-ткі яно прэтэндуе на больш высокі статус – "горад меншы".

З гаспадарчых інвентароў 18 стагоддзя мы ведаем, што жыхары Глыбокага, канешне, мелі свае агародныя ўчасткі і палеткі, якія яны апрацоўвалі – г.зн. займаліся сельскай гаспадаркай (ды зрэшты і ў сучасным Глыбокім большасць людзей у той ці іншай ступені ёй займаецца). Але Глыбокае не жыло адным земляробствам! Больш за палову – 59% хрысціянскага насельніцтва Глыбокага ў сярэдзіне 18 ст. былі рамеснікамі, сярод яўрэяў таксама шмат хто меў тую ці іншую рамесную спецыяльнасць.

Паводле інвентароў, колькасць "дымоў" у Глыбокім нават у пачатку 18 ст. ужо дасягала 249, да сярэдзіны стагоддзя вырасла да 282, а ў 1765 годзе фактычна дацягнулася да ўзроўню 300. У 1783 годзе ў Глыбокім ужо было 316 дымоў, і гэтая колькасць заставалася больш-менш стабільнай на працягу наступных 40 гадоў.

Таму мы можам сказаць, што Глыбокае паводле свайго паходжання было мястэчкам, але паступова вырасла ў такое паселішча, якое па сваіх памерах і занятках жыхароў больш правамерна было б называць горадам-местам, а не мястэчкам. Калі Глыбокае і мястэчка, то вельмі развітае, якое наблізілася да гарадского статусу! І самі глыбачане гэта ведалі і адчувалі розніцу паміж сваім мястэчкам і іншымі паселішчамі, якія таксама класіфікаваліся як мястэчкі, таму вызначалі Глыбокае як нешта большае – як "Места Глыбокае".




**План горада Глыбокае (miasto Głębokie). Мястэчка Глыбокае адзначанае на іншым баку ракі Беразвіцы сілуэтам храма, 1830 г.**

## Мястэчка кармеліцкае і горад радзівілаўскі

Калі Глыбокае радзівілаўскае з поўным правам можна назваць горадам, то тая частка Глыбокага, якая належала кармеліцкаму кляштару, была ўсяго толькі мястэчкам.

У адным з дзяржаўных дакументаў за 1765 год згадваецца пра "места" Глыбокае у Ашмянскім павеце *(г.зн. паўднёва-заходняе Глыбокае* Радзівілаў) і ягонае "прадмесце" ў Полацкім (г.зн. Глыбокае кармеліцкае). У 1830 г. кармеліцкая частка Глыбокага характарызуецца так: "Найперш Кляштар Глыбоцкі Ягамосцяў Ксяндзоў кармелітаў босых, а пры самім кляштары маецца Мястэчка Глыбокае".

Таксама і ва ўзгаданым вышэй падымным Тарыфе за 1775 год для Глыбокага Радзівілаў ужываецца тэрмін "горад" (места), а для кармеліцкага толькі "мястэчка": *"Мястэчка..*, якое належыць да вялебных ксяндзоў кармелітаў" і *"Горад* Глыбокае Немагдэбургскі, Князя Караля Радзівіла, Віленскага ваяводы".

Слова "Miasto" ў дачыненні да Радзівілаўскага Глыбокага мы можам пабачыць і ў першай палове 19 ст.: у метрыках глыбоцкай уніяцкай царквы Св. Тройцы і на тагачасных мапах *паўднёва-заходняя* частка Глыбокага таксама акрэсліваецца як "Места Глыбокае", у той час як кармеліцкая частка – як "мястэчка".

У метрыках называюцца "Местамі" толькі Глыбокае, Паставы і Полацк, а "мястэчкамі" названыя Галубічы, Порплішча, Лужкі (якія на цяперашні час з'яўляюцца вёскамі ці аграгарадкамі). Так, напрыклад, у 1800 годзе ў запісе пра шлюб Тэадора Космача і з Марцэляй Сядкоўскай жаніх з нявестай запісаныя як "з Места Глыбокага", іх сведкі – Леон Гмыза і Ян Цехановіч "з Места Глыбокага" і Дзмітрый Чарэўскі "з мястэчка Пліса". Звернем увагу: Глыбокае – горад-места, а меншая Пліса – мястэчка.

*Працяг будзе.*


Powinność
Miasta Głębokiego

**"Powinność Miasta Głębokiego" ("Павіннасць места (горада) Глыбокае" – дакумент радзівілаўскіх часоў, 1704 г. Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве.**


Miasto Glembokie

**Інвентар места (горада) Глыбокае радзівілаўскіх часоў, 1752 г. Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве.**

# Краязнаўчая канферэнцыя ў Германавічах



**На здымку:** Мікола Паўловіч уручае падарункі Вітольду Ермалёнку

**У вёсцы Германавічы, што ў Шаркоўшчынскім раёне, 5 ліпеня адбылася краязнаўчая канферэнцыя, прысвечаная паўстанню Кастуся Каліноўскага.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*

Канферэнцыю арганізавала кіраўнік культурна-асветніцкага Цэнтра імя Язэпа Драздовіча Ада Райчонак. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел краязнаўцы з Шаркаўшчыны, Германавічаў, Глыбокага, Паставаў, Мёраў, Мінска, Даўгапілса. Як паведаміла арганізатар канферэнцыі, тэма паўстання Кастуся Каліноўскага была выбраная ў сувязі са 150-годдзем паўстання Каліноўскага, якое адзначалася ў мінулым годзе, а таксама таму, што ў сакавіку гэтага года споўнілася паўтары стагоддзі з моманту пакарання смерцю Кастуся Каліноўскага ў Вільні.

Мясцовыя ўлады дазволілі правесці мерапрыемства ў Германавіцкім Доме культуры. Удзельнікі канферэнцыі прадставілі даклады пра падзеі, якія адбываліся ў часы паўстання на землях нашага рэгіёна. І хаця тэма канферэнцыі была прадстаўлена як паўстанне Каліноўскага, дакладчыкі засяродзілі ўвагу слухачоў не на кіраўніку паўстання, а на тых удзельніках, якія паходзілі з нашых мясцін.

Цікавы даклад пра скульптара Генрыха Дмахоўскага зрабіў настаўнік з Мёраў Вітольд Ермалёнак. Ён нават выдаў за свае сродкі брашуру пра гэтага выдатнага сына Беларусі. Генрых Дмахоўскі ўдзельнічаў не толькі ў паўстанні Каліноўскага, але і ў паўстанні 1831 года. Прычым ён спачатку змагаўся супраць царскай Расіі, а потым супраць аўстрыйскага панавання ў Галіцы. Пасля лёс пакідаў яго па свеце – ён вучыўся і працаваў у Францыі, дзе ўдзельнічаў у працах па аздабленні саркафага Напалеона, потым эміграваў у ЗША. Ён стварыў бюсты Вашынгтона, Касцюшкі, Франкліна, Джэферсана, якія і зараз упрыгожваюць будынак Кангрэса ЗША. У траўні 1861 годзе Генрык Дмахоўскі вяртаецца на радзіму, дзе ў хуткім часе бярэ ўдзел у паўстанні Каліноўскага як камісар Дзісенскага павету. Ён загінуў 26 траўня 1863 года каля фальварку Парэчча пад Докшыцамі. Магіла яго знаходзіцца непадалёк ад месца гібелі.

Краязнаўца з Даўгапілсу Мікола Паўловіч нагадаў прысутным, што хутка спадар Вітольд Ермалёнак адзначыць сваё 60-годдзе. У сувязі з гэтым ён падараваў будучаму імяніннiку старадаўнюю шкатулку, таксама старыя грашовыя купюры і паштоўкі. Спадар Вітольд запэўніў прысутных, што хутка гэтыя падарункі стануць экспанатамі яго школьных музеяў. Нагадаем, што Вітольд Ермалёнак у школе ў Мёрах стварыў два цікавыя музеі, якія я раю чытачам пры нагодзе наведаць.

Пра падзеі паўстання на Пастаўшчыне і ў суседняй Свянцяншчыне распавялі Міхал Гіль і Вадзім Шушко, пра браслаўскія падзеі – Ганна Базарэвіч. Міхал Гіль не так даўно пераклаў з польскай мовы кнігу Яніны Якубянец-Чаркоўскай "Паўстанне 1863 года ў Свянцянскім павеце". Гэта кніга цікавая тым, што была выданая ў 1934 годзе, калі яшчэ можна было знайсці жывых удзельнікаў паўстання.

Ада Райчонак і Уладзіслаў Ляскоўскі прадставілі даклады, якія паказваюць паўстанне ў асобах. Яны распавялі пра Канаплянскага і Вярыгу-Дарэўскага, удзельнікаў паўстання Каліноўскага.

Францішак Канаплянскі нарадзіўся ў 1814 годзе на Дзісеншчыне. У 1863 годзе Кастусь Каліноўскі прызначае яго паўстанцкім грамадзянскім начальнікам Віленскага ваяводства. Францішак выконваў адказную работу па арганізацыі і матэрыяльным забеспячэнні паўстання. Пасля паразы паўстання ён хаваўся ад царскіх уладаў у сваім маёнтку, але быў выдадзены мясцовымі сялянамі. Па дарозе на катаргу памёр.

Арцём Вярыга-Дарэўскі нарадзіўся ў Кублічах, цяпер Ушацкі раён, гэта быў беларускі паэт, драматург, публіцыст і даследнік фальклёру, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. За ўдзел у паўстанні ён быў высланы ў Сібір, дзе і памёр у 1884 годзе.

Віктар Бунта ў сваім дакладзе закрануў тэму папярэдняга паўстання, якое адбылося ў 1831 годзе.

Цікавы даклад пра гісторыю царквы ў Бушыках прагучаў з вуснаў знакамітага краязнаўцы з Глыбокага Рыгора Шарыпкіна. Гэтай царкве ў гэтым годзе спаўняецца 222 гады. Дарэчы, Рыгор Шарыпкін прывёў цікавы факт, што напачатку храм будаваўся як каталіцкі, праваслаўным ён стаў пазней. Захаваліся старыя здымкі гэтай царквы.

Антон Астаповіч, старшыня Таварыства па ахове помнікаў гісторыі і культуры, закрануў тэму захавання матэрыяльных аб'ектаў, звязаных з паўстаннем 1863-64 гадоў. Нягледзячы на тое, што наша краіна ўжо больш за два дзесяцігоддзі мае незалежнасць, нашы кіраўнікі не рупяцца пра тое, каб захаваць памяць пра тых, хто ў мінулым змагаўся за гэту незалежнасць са зброяй у руках. Прыкладам можа служыць магіла Францішка Канаплянскага, якая была знішчаная пасля вайны, і на ёй зроблена спартыўная пляцоўка для мясцовай школы. На старых польскіх картах яна пазначана і пры жаданні можна ўстанавіць яе месцазнаходжанне.

Напрыканцы канферэнцыі для яе ўдзельнікаў спявалі госці з Мінска Зміцер Бартосік і Таццяна Беланогая.



**На здымку:** спявае Тацяна Беланогая



# "Людзі гожы касцёл на вякі ўзвялі..."

**У вёсцы Параф'янава, што ў Докшыцкім раёне, адзначылі 110-гадовы юбілей касцёла.**

■ **Зміцер Лупач**

Урачыстасці з гэтай нагоды працягваліся два дні – 12 і 13 ліпеня. У суботу святочную Імшу правёў ксёндз Тадэвуш Кавальскі, які раней 12 гадоў апрацаваў у гэтым касцёле. Ён працаваў якраз у гады, калі касцёл толькі пачынаў аднаўляцца пасля дзясяткаў гадоў занядбання. На набажэнстве прысутнічалі не толькі вернікі гэтай парафіі, але і шмат гасцей. Прысутнічалі таксама і прадстаўнікі мясцовай улады.

У нядзелю святочную Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Напачатку ён прывітаў вернікаў словамі: "Няхай урачыстасць будзе знакам удзячнасці, што Бог на гэтай зямлі жыве!"

Ён блаславіў адрэстаўраваны крыж і абраз у галоўным алтары касцёла, пасля ўдзяліў сакрамант канфірмацыі больш як паўсотні вернікам.

"Гісторыя Касцёла – гэта гісторыя чалавека, які шукае Бога, гісторыя чалавека, якога знаходзіць Бог," – адзначыў біскуп Алег. Ён коратка распавёў пра гісторыю касцёла і парафіі ў Параф'янаве. Сучасны касцёл быў пабудаваны ў 1903 – 1904 гадах. А першы драўляны касцёл паўстаў тут яшчэ ў 1624 годзе. Ён прастаяў нядоўга і быў спалены падчас вайны. Але ўжо ў 1675 годзе касцёл азноў быў адбудаваны. Нялросты лёс быў і ў сучаснага касцёла. У гады ваяўнічага атэізму касцёл зачынілі і зрабілі з яго склад завода. Але дзякуючы вернікам і святарам касцёл быў адноўлены, і зараз яго прыгожыя вежы пануюць над наваколлем.

На заканчэнне Імшы парафіяльны хор праспяваў гімн Параф'янаўскага касцёла, словы да якога напісала мясцовая паэтка Марыя Дзюбак. Музыку да яго па просьбе ксяндза Рамана Мурзіча напісаў Уладзімір Неўдах.

Гімн пачынаецца такімі словамі:

*У прыгожым кутку нашай роднай зямлі,*
*Дзе спакойная рэчка Галядза бруіцца,*
*Людзі гожы касцёл на вякі ўзвялі,*
*Ён для нас – жыватворнае веры крыніца.*

# Мастак Віктар Дудкевіч зрабіў драўляны ровар

■ **Зміцер Лупач**

**Майстар прадэманстраваў сваю тэхніку на святе 600-годдзя Глыбокага.**

Для свайго ровара мастак выкарыстаў некаторыя з дэталяў калаўротаў. Віктар плануе яшчэ дарабіць да яго педалі. Па яго словах, некалі драўляны ровар быў зроблены яго дзедам і яму захацелася таксама зрабіць штосьці падобнае.

Віктар Дудкевіч працуе ў Глыбоцкім Доме рамёстваў разьбяром па дрэве. Ён таксама піша карціны, займаецца рэканструкцыяй старадаўніх цацак. На свяце беларускага пісьменства, якое праходзіла два гады таму ў Глыбокім, ён прадэманстраваў друкарскі станок, які зрабіў паводле старых выяваў. На падобным станку друкаваў свае кнігі Францыск Скарына. У гэтым годзе Віктар Дудкевіч са сваім станком заняў другое месца на конкурсе ў Наваполацку. Спадзяёмся, што і яго ровар будзе ацэнены.



# На чужы каравай рот не разявай



■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Лета падыходзіць да свайго экватара, надвор'е змяняецца штодня і для аматараў-рыбаловаў гэта не вельмі добра. Частая змена надвор'я адмоўна ўплывае на клёў рыбы, таму шматлікія рыбаловы наведваюць платныя сажалкі рыбгаса «Навінкі» Пастаўскага раёна. Лоўля карпа на спецыяльна выдзеленых сажалках рыбгаса платная, арганізавана стаянка аўтатранспарту, сажалка абгароджаная сеткай, на ўваходзе пастаянна знаходзіцца работнік рыбгаса, штотыдзень сажалку зарыбляюць, усё рыбалоўныя месцы абсталяваны лаўкамі, устаноўлены смецевыя бакі, зроблена ўсё для добрага адпачынку. Аднак не ўсе грамадзяне жадаюць праводзіць нармальна свой вольны час, некаторыя хочуць лавіць рыбу бясплатна, выкрасці яе рознымі спосабамі, асобныя злоўжываюць спіртнымі напоямі і перашкаджаюць адпачываць іншым грамадзянам. Работнікі міжраённай інспекцыі аказваюць пастаянную дапамогу рыбгасу ў выяўленні і спыненні крадзяжоў сажалкавай рыбы.

За вясенне-летні перыяд сажалкавая рыба вельмі хутка набірае вагу і неўзабаве работнікі рыбгаса пачнуць аблоў сажалак і масавую рэалізацыю рыбы насельніцтву. Аднак, рыбу, што нагуляла вагу, асобныя грамадзяне спрабуюць выкрасці не толькі з платнай сажалкі, але і іншых сажалак. Пасля заканчэння працоўнага дня, як толькі работнікі рыбгаса сыходзяць дадому, аматары дармавой рыбы ляснымі сцежкамі прабіраюцца на сажалкі і з дапамогай розных сродкаў, сетак, вудаў, нератаў выкрадаюць сажалкавую рыбу, практычна крадуць у людзей заробтную плату.

Але не ўсім «катам масленіца», шмат хто з нахабных браканьераў пераходзіць у разрад парушальнікаў, таму што затрымліваюцца работнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі.

Так, 8 ліпеня гэтага года каля 19 гадзін рэйдавай групай інспекцыі і работнікаў рыбгаса затрыманыя двое жыхароў в. Пялікі Шаркаўшчынскага раёна, якія з дапамогай сеткі і вуд выкралі з нагульнай сажалкі 16 кг карпа, цяпер парушальнікаў чакае раённы суд і сур'ёзны грашовы штраф.

У наступны вечар 9 ліпеня каля 20 гадзін супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі затрыманыя двое жыхароў г.п. Шаркаўшчына, якія з дапамогай вуд спрабавалі выкрасці сажалкавую рыбу, але не паспелі нічога злавіць, а самі папаліся ў рукі інспектараў. І хоць рыбы парушальнікі не злавілі, але адказнасць за замах на крадзеж, меншай не будзе, парушальнікаў чакае раённы суд і штраф у памеры ад 10 да 30 базавых велічынь. Вось такой дарагой можа апынуцца незаконная рыбалка, нават за мінімальны штраф можна купіць больш за 30 кг добрага сажалкавага карпа.

Рэйдавыя мерапрыемствы інспектарамі і работнікамі рыбгаса будуць працягвацца да заканчэння пуціны, напэўна, яшчэ будуць затрыманыя дзясяткі аматараў пажывіцца за чужы кошт, але гэта працяг браканьерскай гісторыі.

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету просіць грамадзян аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства паведамляць па тэлефонах: 8-02156 -28670 «гарачая лінія» – кругласутачна, маб. 8972302, 8905528, 2494549, 6456678 (МТС).**



**На здымку:** месца, абсталяванае для рыбакоў, у рыбнай гаспадарцы «Навінкі»

# Аб прафілактыцы цеплатраўматызму

■ **А. Ю. Рацьковіч,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА.*

**З надыходам летняга перыяду прадпрыемствы і арганізацыі праводзяць работы па рамонце і замене трубаправодаў цеплавых сетак.**

Асабліва маштабныя такія працы ў галоўным энергазабеспячальным прадпрыемстве – УП ЖКГ Глыбоцкага раёна. Цеплавыя сеткі дадзенага прадпрыемства ахопліваюць горад і раён і пралягаюць побач з жылымі дамамі, дзіцячымі ўстановамі, пешаходнымі тратуарамі і г. д.

Як вынік, земляныя работы па раскопцы траншэй на цеплавых сетках праводзяцца ў месцах найбольшага знаходжання людзей усіх узроставых катэгорый. Асабліва могуць пацярпець дзеці, якія любяць зладзіць гульні ў месцах раскопак. Доўг дарослых – у коле сям'і, у школах, дзіцячых садках тлумачыць меры бяспекі, захаванне якіх прадухіліць няшчасныя выпадкі (трагедыю).

У сувязі з гэтым, неабходна памятаць, што забараняецца:

■ набліжацца да месцаў, дзе вядуцца земляныя і рамонтныя работы на цеплатрасах;

■ пранікаць за агароджы ў месцах рамонту трубаправодаў цеплавой сеткі;

■ хаджэнне па трубаправодах цеплавых сетак;

■ пранікаць у цеплавыя камеры;

■ пранікаць у цеплавыя пункты, круціць засаўкі на трубаправодах;

■ калыхацца на трубаправодах сістэм ацяплення.

**Каб пазбегнуць траўматызму сярод дзяцей, паважаныя дарослыя, не дазвалялася ім залазіць у раскапаныя траншэі, катлаваны, адкрытыя цеплавыя камеры і калодзежы, гуляць у месцах правядзення прац.**





Разве не ясно, что это опасно?!







# Калі ж мы навучымся шанаваць самае дарагое ў гэтым жыцці?

**Летняя пара – адна з самых доўгачаканых, і звязана яна, перш за ўсё, з адпачынкам, канікуламі, магчымасцю заняцца любімай справай... На жаль, менавіта ў выдатную пару летніх канікул і адпачынкаў расце колькасць няшчасных выпадкаў, якія прыводзяць да гібелі і траўматызму людзей, у тым ліку дзяцей, па іх уласнай неасцярожнасці.**

■ **А.С. Крывёнак,** *дзяржінспектар Энерганагляду*

Адсутнасць культуры энергаспажывання, ігнараванне забараняючых і папераджальных знакаў па электра- і цеплатраўматызму, славянскі менталітэт, які прывык разлічваць на «авось», штогод прыводзяць да сумных наступстваў.

Статыстыка сведчыць: толькі з пачатку гэтага года сярод насельніцтва зафіксавана 6 выпадкаў паражэння электрычным токам, з іх 5 – са смяротным зыходам. Не паддаюцца разуменню здаровага сэнсу няшчасныя выпадкі ад паражэння электрычным токам пры рыбнай лоўлі, што паўтараюцца з году ў год. У 2013 годзе ад дотыку вудзільна з высакавольтнымі лініямі электраперадач загінула 4 чалавекі. Сумны спіс адкрыты і ў чэрвені сёлета.

Асаблівую трывогу выклікаюць выпадкі паражэння электрычным токам, якія адбыліся з непаўналетнімі. Бескантрольнасць паводзін і дзеянняў падлеткаў з боку дарослых прыводзіць да трагічна непапраўных наступстваў. Дзеці пакутуюць, перш за ўсё, з-за нашай абыякавасці і няўдзелу ў іх «маленькім» асабістым жыцці. Бацькі вельмі часта не задаюць сабе пытанне: дзе знаходзіцца дзіця, куды яно можа пайсці гуляць і з кім? Простыя пытанні – «Куды пойдзеце сёння? Дзе бегалі ўчора?» – могуць выратаваць самае каштоўнае ў гэтым свеце – жыццё і здароўе дзіцяці.

У чэрвені 2014 года ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці пад дзеяннем электрычнага току трапіла дзевяцігадовае дзіця, якое абрала месцам для гульняў з аднагодкамі трансфарматарную падстанцыю. На шчасце, атрымаўшы цяжкую траўму ў выглядзе тэрмічных апёкаў рукі і нагі, хлопчык застаўся жывы. У 2013 годзе пры падобных абставінах дзіця загінула, двое дзяцей атрымалі цяжкія траўмы ад электрычнага току.

Паважаныя дарослыя! Растлумачце дзецям, наколькі небяспечныя гульні каля аб'ектаў, якія знаходзяцца пад электрычным напружаннем: трансфарматарных падстанцый, апор паветраных ліній электраперадачы, размеркавальных шчытах, сілавых шафах і іншых. Праходзячы міма такіх аб'ектаў, спыніцеся і папрасіце сваё някемлівае дзіця ўслых прачытаць папераджальны знак: "Небяспечна для жыцця!". Спытаеце "Што ты зразумеў?". Абдыміце, і, прыгарнуўшы да сябе, скажыце яму: "Мы цябе любім! Як жа мы без цябе, а ты без нас?". І, магчыма, менавіта гэты маленькі ўчынак і гэтыя словы зробяць вас пасапраўдным шчаслівымі на ўсё астатняе жыццё.

***Да ведама:*** *у рамках прафілактыкі электра- і цеплатраўматызму кіраўнікамі і спецыялістамі энергазабеспячальных арганізацый Міністэрства энергетыкі Рэспублікі Беларусь толькі ў 2014 годзе праведзена звыш 700 выступленняў па рэспубліканскім, абласным, раённым радыё і тэлебачанні, апублікавана 116 артыкулаў на старонках друкаваных СМІ, распаўсюджана сярод насельніцтва і спажыўцоў энергіі больш за 48 тысяч асобнікаў памятак.*

Прычынай няшчасных выпадкаў з'яўляюцца адсутнасць культуры карыстання электрычнай энергіяй, гарэзлівасць і неразуменне небяспекі, якую ўяўляе для чалавека электрычны ток. Каб пазбегнуць траўматызму ад электрычнага току забараняецца:

■ залазіць на апоры паветранай лініі электраперадач;

■ запускаць папяровых змеяў паблізу правадоў ліній;

■ адкрываць размеркавальныя шчыткі, сілавыя шафы і разбіваць убудаваныя ў іх прыборы;

■ кідаць дрот, металічныя прадметы на правады паветраных ліній электраперадач;

■ разбіваць ізалятары на апорах ліній электраперадач;

лавіць рыбу паблізу паветраных ліній электраперадач;

■ падыходзіць на блізкую адлегласць (бліжэй 8 метраў) да правісшых або абарваных правадоў;

■ рабіць самастойна рамонт электраправодкі і электрапрыбораў;

■ дакранацца мокрымі рукамі да электрапрыбораў;

■ наліваць у электрачайнік ваду, не выключыўшы яго з разеткі;

■ хапацца за провад, выцягваючы вілку з разеткі;

■ чапаць рукамі абарваны провад, наступаць на яго;

■ дакранацца да чалавека, які знаходзіцца пад дзеяннем электрычнага току.

Памятаеце: дотык да аголеных або абарваных правадоў ўяўляе смяротную небяспеку.

У выпадку паражэння чалавека электрычным токам, неадкладна выклікайце ўрача, паведаміце бацькам, педагогам, суседзям, мінакам.

